# АБ РАБОЦЕ У ВЁСЦЫ

## Прамова тав. СТАЛІНА на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б) 11 студзеня 1933 г.

Таварышы! Я думаю, што прамоўцы правільна абрысавалі стан партыйнай работы ў вёсцы, яе недахопы, яе вартасьці,—асабліва яе недахопы. І ўсё-ж, мне здаецца, што яны не сказалі самага галоўнага на конт недахопаў нашай работы ў вёсцы, ня ўскрылі карэньняў гэтых недахопаў. А між тым, гэты бок прадстаўляе для нас найбольшую цікавасьць. Дазвольце таму выказаць сваю думку аб недахопах нашай работы ў вёсцы, выказаць з усёй тэй прастатой, якая ўласьціва бальшавіком.

У чым заключаецца галоўны недахоп нашай работы ў вёсцы за апошні год, за 1932 год?

Галоўны недахоп заключаецца ў тым, што збожжазагатоўкі ў гэтым годзе прайшлі ў нас з большымі труднасьцямі, чым у мінулым годзе, чым у 1931 годзе.

Тлумачыць гэта дрэнным станам ураджаю ніяк нельга, бо ўраджай у нас быў у гэтым годзе ня горшы, а лепшы, чым у мінулым годзе. Ніхто ня можа адмаўляць, што валавы збор хлябоў у 1932 г. быў большы, чым у 1931 г., калі засуха ў пяці асноўных раёнах паўночнага ўсходу СССР значна скараціла збожжавы балянс краіны. Вядома, мы і ў 1932 годзе мелі некаторыя страты ўраджаю ў выніку няспрыяльных кліматычных умоў на Кубані, і Цераку, а таксама ў некаторых раёнах Украіны. Але ня можа быць сумненьня ў тым, што гэтыя страты не складаюць і палавіннай долі тых страт, якія мелі месца ў 1931 годзе, з прычыны засухі ў паўночна ўсходніх раёнах СССР.

Стала быць у 1932 годзе збожжа ў нас было ў краіне больш, чым у 1931 годзе. І ўсё-ж, ня гледзячы на гэтую акалічнасьць, збожжазагатоўкі прайшлі ў нас у 1932 годзе з большымі затрудненьнямі, чым у папярэднім годзе.

У чым тут справа? Дзе прычыны гэтага недахопу нашай работы? Чым вытлумачыць гэтую неадпаведнасьць?

1. Тлумачыцца гэта перш за ўсё тым, што нашы таварышы на мясцох, нашы вясковыя работнікі ня здолелі ўлічыць новай абстаноўкі ў вёсцы, створанай абвяшчэньнем калгаснага гандлю збожжам і іменна таму, што яны ня ўлічылі новай абстаноўкі, іменна таму яны ня здолелі перабудавацца на новы лад, прыстасоўна да новай абстаноўкі. Пакуль ня было калгаснага гандлю збожжам, пакуль ня было дзьвёх цэн на збожжа—дзяржаўнай і рыначнай—абстаноўка ў вёсцы была адна. З абвяшчэньнем калгаснага гандлю збожжам абстаноўка павінна была зьмяніцца крута, бо абвяшчэньне калгаснага гандлю азначае легалізацыю рыначнай цаны на збожжа, больш высокай, чым устаноўленая дзяржаўная цана. Няма чаго і даводзіць, што гэта акалічнасьць павінна была стварыць у сялян пэўную стрыманасьць у справе здачы збожжа дзяржаве. Селянін прыкідваў так: „Абвешчан калгасны гандаль збожжам, легалізавана рыначная цана, на рынку я магу за тую-ж колькасьць збожжа атрымаць больш, чым пры здачы збожжа дзяржаве, стала быць, калі я ня дурань, я павінен збожжа прытрымаць, здаваць яго дзяржаве менш, пакінуць яго да калгаснага гандлю больш і такім чынам дабіцца таго, каб выручыць больш за тую-ж колькасьць праданага збожжа".

Самая простая і натуральная лёгіка! Але бяда тут заключаецца ў тым, што нашы вясковыя работнікі, ва ўсякім выпадку многія з іх, не зразумелі гэтай простай і натуральнай рэчы. Каб не сарваць заданьняў савецкай улады, камуністы павінны былі пры гэтых новых абставінах з першых жа дзён уборкі, яшчэ ў ліпені месяцы 1932 г.—яны павінны былі ўсямерна ўзмацніць і падганяць збожжазагатоўкі. Гэтага патрабавала абстаноўка. А як яны зрабілі на справе? Замест таго, каб падганяць збожжазагатоўкі, яны пачалі падганяць стварэньне ўсякага роду фондаў, узмацняючы тым самым стрыманасьць здатчыкаў збожжа ў справе выкананьня іх абавязкаў перад дзяржавай. Не зразумеўшы новай абстаноўкі, яны пачалі баяцца не таго, што стрыманасьць сялян у справе збожжаздачы можа затармазіць збожжазагатоўкі, але пачалі баяцца таго, што сяляне не здагадаюцца прытрымаць збожжа для вывазу яго потым на рынак па лініі калгаснага гандлю і, чаго добрага, возьмуць дый здадуць усё сваё збожжа на элеватары.

Інакш кажучы, нашы вясковыя камуністы, прынамсі, большасьць з іх, раскусілі калгасны гандаль толькі з яго станоўчага боку, зразумелі і ўсвоілі яго станоўчы бок, але зусім не зразумелі і ня ўсвоілі адмоўных бакоў калгаснага гандлю,—не зразумелі таго, што адмоўныя бакі калгаснага гандлю могуць нанесьці вялікую шкоду дзяржаве, калі яны, г. зн. камуністы не пачнуць з першых-жа дзён уборкі збожжа падганяць ва ўсю збожжазагатоўчую кампанію.

І гэта памылка была дапушчана ня толькі работнікамі ў калгасах. Яна была дапушчана таксама дырэктарамі саўгасаў, якія злачынна прытрымлівалі збожжа, якое належыць здачы дзяржаве, пачалі прадаваць яго на бок па больш высокай цане.

Ці ўлічвалі Саўнарком і ЦК гэтую новую абстаноўку, якая склалася ў сувязі з калгасным гандлем збожжам, у вядомай сваёй пастанове аб разгортваньні калгаснага гандлю? Так, улічвалі. У гэтай пастанове проста гаворыцца, што калгасны гандаль збожжам можна адкрыць толькі пасьля таго, як будзе выканан цалкам і поўнасьцю плян збожжазагатовак .і будзе сабрана насеньне. Там проста сказана, што толькі пасьля сканчэньня збожжазагатовак і ссыпкі насеньня, прыкладна к 15 студзеня 1933 г.—толькі пасьля выкананьня гэтых умоў, можна будзе адкрыць калгасны гандаль збожжам. Гэтай сваёй пастановай Саўнарком і ЦК як-бы гаварылі нашым вясковым работнікам: не засланяйце сваёй ўвагі клопатамі аб фондах і запасах усякага роду, не адхіляйцеся ад галоўнай задачы, разгарнеце збожжазагатоўкі з першых-жа дзён уборкі і фарсуйце іх, бо першая запаведзь—выкананьне пляну збожжазагатовак, другая запаведзь—ссыпка насеньня, і толькі пасьля выкананьня гэтых умоў можаце пачаць і разгортваць калгасны гандаль збожжам.

**Памылка Палітбюро ЦК і Саўнаркому заключалася, можа быць, у тым,** што яны ня зусім настойліва падкрэсьлілі гэты бок справы і ня выстарчальна галасна папярэдзілі нашых вясковых работнікаў аб небясьпеках, якія тояцца ў калгасным гандлі. Але, што яны аб гэтых небясьпеках папярэдзілі, і папярэдзілі досыць ясна,—у гэтым ня можа быць ніякага сумненьня. Трэба прызнаць, што ЦК і Саўнарком некалькі пераацанілі ленінскую загартаванасьць і прадбачлівасьць нашых работнікаў на мясцох, ня толькі раённых, але і раду абласных.



Можа быць ня трэ' было абвяшчаць калгасны гандаль збожжам? Можа быць гэта была памылка, асабліва калі мець на ўвазе тую акалічнасьць, што калгаснаму гандлю ўласьцівы ня толькі станоўчыя, але і некаторыя адмоўныя бакі?

Не, гэта ня было памылкай. Ні адно рэвалюцыйнае мерапрыемства не гарантавана ад некаторых адмоўных бакоў, калі яно правodзіцца няправільна. Тое самае трэба сказаць аб калгасным гандлі збожжам. Калгасны гандаль патрэбны і выгадны як вёсцы, так і гораду, як рабочай клясе, так і сялянству. І іменна таму, што ён выгадны, яго трэ' было ўвесьці.

Чым кіраваліся Саўнарком і ЦК, уводзячы калгасны гандаль збожжам?

Перш за ўсё тым, каб пашырыць базу таваразвароту паміж горадам і вёскай і палепшыць снабжэньне рабочых сельска - гаспадарчымі прадуктамі, а сялян—гарадзкімі вырабамі. Ня можа быць сумненьняў, што аднаго толькі дзяржаўнага каапэрацыйнага гандлю для гэтага мала.

Гэтыя каналы таваразвароту трэба было дапоўніць новым каналам—калгасным гандлем. І мы іх дапоўнілі, увёўшы калгасны гандаль.

Яны кіраваліся, далей, тым, каб пры дапамозе калгаснага гандлю збожжам даць калгасьніку дадатковую крыніцу даходу і ўмацаваць, яго эканамічнае становішча.

Яны кіраваліся, нарэшце, тым, каб увядзеньнем калгаснага гандлю даць селяніну новы штуршок для паляпшэньня работы калгасаў як па лініі саўгасаў, так і па лініі ўборкі.

Вы ведаеце, што ўсе гэтыя меркаваньні Саўнаркому і ЦК цалкам і поўнасьцю пацьвердзіліся фактамі з жыцьця калгасаў за апошні час. Узмацненьне працэсу ўмацаваньня калгасаў, спыненьне выхадаў з калгасаў, нарастаючая цяга аднаасобнікаў у калгасы, імкненьне калгасьнікаў прымаць новых членаў з большы разборам,—усё гэта і многае падобнае э бясспрэчнасьцю гаворыць аб тым, што калгасны гандаль ня толькі не аслабіў, а, наадварот, узмацніў і ўмацаваў становішча калгасаў.

Стала быць, недахопы нашай работы ў вёсцы тлумачацца не калгасным гандлем, а не заўсёды правільным яго правядзеньнем, няўменьнем улічыць новую абстаноўку, няўменьнем перабудаваць свае рады прыстасоўна да новай абстаноўкі, створанай абвяшчэньнем калгаснага гандлю збожжам.

2. Другая прычына недахопаў нашай работы ў вёсцы заключаецца ў тым, што нашы таварышы на мясцох,—і ня толькі гэтыя таварышы, — не зразумелі зьмены ўмоў нашай работы ў вёсцы, якая адбылася ў сувязі з зацьверджаньнем пануючага становішча калгасаў у асноўных збожжавых раёнах. Мы ўсе радуемся таму, што калгасная форма гаспадаркі стала пануючай формай у нашых збожжавых раёнах. Але ня ўсе разумеюць тое, што гэта акалічнасьць не зьмяншае, а павялічвае нашы клопаты і нашу адказнасьць у справе разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Многія думаюць, што паколькі дасягнута, скажам, 70 або 80 проц. калектывізацыі ў тым ці іншым раёне, у тэй ці іншай вобласьці, дык гэтым ужо ўсё дана, і мы можам прадаставіць справу натуральнаму ходу рэчаў, прадаставіць справу самацёку, мяркуючы, што калектывізацыя сама зробіць сваю справу, сама ўздыме сельскую гаспадарку. Але гэта глыбокая памылка, таварышы. На самой справе пераход да калектыўнай гаспадаркі, як пераважнай формы гаспадаркі, не зьмяншае, а павялічвае нашы клопаты аб сельскай гаспадарцы, не зьмяншае, а павялічвае кіруючую ролю камуністаў у справе пад'ёму сельскай гаспадаркі. Самацёк цяпер больш, чым калі-небудзь, небясьпечны для справы разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Самацёк цяпер можа загубіць усю справу.

Пакуль у вёсцы меў перавагу аднаасобны гаспадар, партыя магла абмежаваць сваё ўмяшаньне ў справу разьвіцьця сельскай гаспадаркі асобнымі актамі дапамогі, парады або папярэджаньня, тады аднаасобнік сам павінен быў паклапаціцца аб сваёй

і саветы прыкрывалі контр-рэвалюцыю супроць рэвалюцыі. Так была справа ў Германіі ў канцы 1918 г., калі саветамі кіравалі сацыял-дэмакраты і калі яны прыкрывалі контр-рэвалюцыю супроць рэвалюцыі.

Стала быць, справа ня толькі ў саветах як у форме арганізацыі, хоць сама гэта форма прадстаўляе найвялікшае рэвалюцыйнае заваяваньне. Справа, перш за ўсё, у зьмесьце работы саветаў, справа ў характары работы саветаў, справа ў тым, хто іменна кіруе саветамі,—рэвалюцыянэры ці контр-рэвалюцыянэры. Гэтым, уласна, і тлумачыцца той факт, што контр-рэвалюцыянэры не заўсёды выказваюцца супроць саветаў. Вядома, напрыклад, што галава рускай контр-рэвалюцыі Мілюкоў у часе кранштадзкага паўстаньня выказваўся за саветы, але без камуністаў. „Саветы без камуністаў"—вось які быў тады лёзунг галавы рускай контр-рэвалюцыі Мілюкова. Контр-рэвалюцыянэры зразумелі, што справа ня толькі ў саміх саветах, але перш за ўсё ў тым, хто будзе імі кіраваць.

Тое-ж самае трэба сказаць і пра калгасы. Калгасы, як сацыялістычная форма арганізацыі гаспадаркі, могуць паказаць цуды гаспадарчага будаўніцтва, калі на чале іх стаяць сапраўдныя рэвалюцыянэры, бальшавікі, камуністы, і, наадварот, калгасы могуць ператварыцца на пэўны пэрыяд у прыкрыцьцё ўсякага роду контр-рэвалюцыйных дзеяньняў, калі ў калгасах будуць запраўляць эс-эры і меншавікі, пятлюраўскія афіцэры і іншыя белагвардзейцы, былыя дзянікінцы і калчакаўцы. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што калгасы, як форма арганізацыі, ня толькі не гарантаваны ад пралязаньня антысавецкіх элемэнтаў, але прадстаўляюць нават на першы час некаторую зручнасьць для часовага выкарыстаньня іх контр-рэвалюцыянэрамі. Пакуль сяляне вялі індывідуальную гаспадарку,—яны былі разрозьнены і аддзелены адны ад адных, з прычыны чаго контр-рэволюцыйныя імкненьні антысавецкіх элемэнтаў у сялянскім асяродзішчы не маглі даць вялікага эфэкту. Зусім іншы малюнак атрымліваецца пры пераходзе сялян да калгаснай гаспадаркі. Тут сяляне маюць ужо ў асобе калгасаў гатовую форму масавай арганізацыі. З прычыны гэтага пралязаньне антысавецкіх элемэнтаў у калгасы і іх антысавецкая дзейнасьць могуць даць значна большы эфэкт. Трэба думаць, што ўсё гэта ўлічваюць антысавецкія элемэнты. Вядома, што адна частка контр-рэвалюцыянэраў напрыклад, на Паўночным Каўказе, сама стараецца стварыць нешта накшталт калгасаў, выкарыстоўваючы іх, яе легальнае прыкрыцьцё для сваіх падпольных арганізацый. Вядома таксама, што антысавецкія элемэнты ў радзе раёнаў, дзе яны яшчэ ня выкрыты і не разгромлены,—ахвотна ідуць у калгасы, нават усхваляюць калгасы для таго, каб стварыць унутры калгасаў гнёзды контр-рэвалюцыйнай работы. Вядома таксама, што адна частка антысавецкіх элемэнтаў сама выказваецца цяпер за калгасы, але з тым, каб у калгасах ня было камуністаў. „Калгасы без камуністаў"—вось такі лёзунг выношваецца зараз у асяродзішчы антысавецкіх элемэнтаў, стала быць справа ня толькі ў саміх калгасах, як сацыялістычнай форме арганізацыі, але перш за ўсё ў тым, які зьмест уліваецца ў гэту форму, справа перш за ўсё ў тым, хто стаіць на чале калгасаў і хто кіруе імі.

З пункту гледжаньня ленінізму калгасы, як і саветы, узятыя як форма арганізацыі, ёсьць зброя, і толькі зброя. Гэтую зброю можна пры пэўных умовах накіраваць супроць рэвалюцыі. Яе можна накіраваць супроць контр-рэвалюцыі. Яна можа служыць рабочай клясе і сялянству. Яна можа служыць пры пэўных умовах ворагам рабочай клясы і сялянства. Уся справа ў тым, у чыіх руках знаходзіцца гэта зброя і супроць каго яна будзе накіравана. Гэта пачынаюць разумець ворагі рабочых і сялян, кіруемыя клясавым інстынктам.

Гэтага яшчэ не разумеюць, нажаль, некаторыя нашы камуністы. І іменна таму, што некаторыя нашы камуністы не зразумелі гэтай простай рэчы,—іменна таму мы маем цяпер такі малюнак, што ў радзе калгасаў запраўляюць справамі добра замаскаваныя антысавецкія элемэнты, арганізуючы там шкодніцтва і сабатаж.

4. Чацьвёртая прычына недахопаў нашай работы ў вёсцы заключаецца ў няўменьні цэлага раду нашых таварышоў на мясцох перабудаваць фронт барацьбы з кулацтвам, у неразуменьні таго, што твар клясавага ворага зьмяніўся за апошні час, зьмянілася тактыка клясавага ворага ў вёсцы і што адпаведна з гэтым трэба зьмяніць сваю тактыку, каб дабіцца посьпеху. Вораг зразумеў абстаноўку, якая зьмянілася, зразумеў сілу і магутнасьць новага ладу ў вёсцы і, зразумеўшы гэта, перабудаваўся, зьмяніў сваю тактыку,—перайшоў ад простай атакі супроць калгасаў да работы ціхай сапай. А мы гэтага не зразумелі, новай абстаноўкі не разгледзелі і ўсё яшчэ шукаем клясавага ворага там, дзе яго ўжо няма, усё яшчэ вядзем старую тактыку спрошчанай барацьбы з кулацтвам, тады, як яна, гэта самая тактыка, даўно ўжо пастарэла.

Шукаюць клясавага ворага па-за калгасамі, шукаюць яго ў выглядзе людзей са зьверскай фізіяноміяй, з вялізарнымі зубамі, з тоўстай шыяй, з абрэзам у руках. Шукаюць кулака, якім мы яго ведаем з плякатаў. Але такіх кулакоў даўно ўжо няма на паверхні. Цяперашнія кулакі і падкулачнікі, цяперашнія антысавецкія элемэнты ў вёсцы—гэта большай часткай людзі „ціхія", „салодзенькія", амаль „сьвятыя". Іх ня трэба шукаць далёка ад калгасу, яны сядзяць у самым калгасе і займаюць там пасады кладаўшчыкоў, загадчыкаў гаспадарак, рахункаводаў, сакратароў і г. д.

Яны ніколі ня скажуць—„далоў калгасы". Яны „за" калгасы. Але яны вядуць у калгасах такую сабатажніцкую і шкодніцкую работу, што калгасам ад іх не паздаровіцца. Яны ніколі не скажуць—„далоў збожжазагатоўкі". Яны „за" збожжазагатоўкі. Яны „толькі" пускаюцца ў дэмагогію і папатрабуюць, каб калгас стварыў фонд для жывёлагадоўлі ўтрая большы па разьмерах чым гэта патрабуецца для справы, каб калгас стварыў страхавы фонд утрая большы па разьмерах, чым гэта патрабуецца для справы, каб калгас выдаваў на грамадзкае харчаваньне ад 6 да 10 фунтаў у дзень на работніка і г. д. Зразумела, што пасьля такіх „фондаў" і выдач на грамадзкае харчаваньне, пасьля такой жульніцкай дэмагогіі гаспадарчая магутнасьць калгасу павінна быць падарвана і для збожжазагатовак не застаецца месца.

Каб разглядзець такога спрытнага ворага і не паддацца дэмагогіі, трэба ўладаць рэволюцыйнай пільнасьцю, трэба ўладаць здольнасьцю сарваць маску з ворага і паказаць калгасьнікам яго сапраўдны контр-рэвалюцыйны твар. Але ці многа ёсьць у нас у вёсцы камуністаў, уладаючых гэтымі якасьцямі? Камуністы нярадка ня толькі не выкры-

ваюць такіх клясавых ворагаў, а, наадварот, самі паддаюцца іх жульніцкай дэмагогіі і цягнуцца за імі ў хвасьце.

Не заўважваючы клясавага ворага ў яго новай масцы і ня ўмеючы выкрыць яго машэньніцкія махінацыі, некаторыя нашы таварышы нярэдка супакойваюць сябе тым, што кулакоў ужо няма нібы на сьвеце, што антысавецкія элементы ў вёсцы ўжо зьнішчаны ў выніку палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы і што можна пагадзіцца з прычыны гэтага з існаваньнем „нэйтральных" калгасаў, якія не зьяўляюцца ні бальшавіцкімі, ні антысавецкімі, але якія самі, так сказаць, стыхійным парадкам, павінны будуць перайсьці на бок савецкай улады.

Але гэта глыбокая памылка, таварышы. Кулакі разьбіты, але яны далёка яшчэ не дабіты. Больш таго,—яны ня так хутка яшчэ будуць дабіты, калі камуністы будуць зяваць і „благодушествовать", думаючы, што кулакі самі сойдуць у магілу ў парадку, так сказаць, стыхійнага свайго разьвіцьця.

Што датычыць „нэйтральных" калгасаў, то іх няма наогул і ня можа быць у прыродзе, „нэйтральныя" калгасы—гэта фантазія людзей, якім даны вочы для таго, каб нічога ня бачыць. Пры такой вострай клясавай барацьбе, якая ёсьць у нас цяпер у савецкай краіне, для „нэйтральных" калгасаў не застаецца ўжо месца, пры такой абстаноўцы калгасы могуць быць або бальшавіцкімі, або антысавецкімі. І калі мы ня кіруем у тых ці іншых калгасах, дык гэта значыць, што імі кіруюць антысавецкія элементы. У гэтым ня можа быць ніякага сумненьня.

5. Нарэшце, яшчэ адна прычына недахопаў нашай работы на вёсцы. Заключаецца яна, гэта прычына, ў недаацэнцы ролі і адказнасьці камуністаў ў справе калгаснага будаўніцтва, у недаацэнцы ролі і адказнасьці камуністаў у справе збожжазагатовак. Гаворачы пра труднасьці збожжазагатовак, камуністы звычайна ўзвальваюць адказнасьць на сялян, сьцьвярджаючы, што ва ўсім вінаваты сяляне. Але гэта зусім няправільна і бязумоўна несправядліва. Сяляне тут ні прычым. Калі гутарка ідзе аб адказнасьці і вінаватасьці, дык адказнасьць падае цалкам і поўнасьцю на камуністаў, вінаваты тут ва ўсім толькі мы, камуністы.

У сьвеце няма і ня бывала такой магутнай і аўтарытэтнай улады, як наша, савецкая ўлада. У сьвеце няма і ня бывала такой магутнай і аўтарытэтнай партыі, як наша, камуністычная партыя. Ніхто не перашкаджае і ня можа перашкодзіць нам весьці справу калгасаў, так, як патрабуюць гэтага інтарэсы калгасаў інтарэсы дзяржавы. І калі нам не заўсёды ўдаецца весьці справу калгасаў так, як патрабуе гэтага ленінізм, калі мы дапускаем нярэдка рад грубых недаравальных памылак, скажам, па лініі збожжазагатовак, то вінаваты ў гэтым мы, і толькі мы.

Мы вінаваты ў тым, што не разгледзелі адмоўных бакоў калгаснага гандлю збожжам і дапусьцілі рад грубейшых памылак. Мы вінаваты ў тым, што цэлы рад нашых арганізацый адарваўся ад калгасаў, пачыў на лаўрах і аддаўся стыхіі самацёку. Мы вінаваты ў тым, што цэлы рад нашых таварышоў усё яшчэ пераацэньваюць калгасы, як форму масавай арганізацыі, не разумеючы, што справа ня столькі ў самой форме, колькі ў тым, каб самім узяць на сябе кіраўніцтва калгасамі і выштурхнуць з кіраўніцтва калгасамі антысавецкія элементы. Мы вінаваты ў тым, што не разгледзелі новай абстаноўкі і не ўясьнілі сабе новую тактыку клясавага ворага, які дзейнічае ціхай сапай.

Паўстае запытаньне, прычым тут сяляне?

Я ведаю цэлыя групы калгасаў, якія разьвіваюцца і квітнеюць, акуратна выконваюць заданьні дзяржавы і мацнеюць у гаспадарчых адносінах з дня на дзень. З другога боку, я ведаю і такія калгасы, якія разьмешчаны па суседзтву з папярэднімі калгасамі, якія, ня гледзячы на аднолькавы з імі ўраджай і аднолькавыя з імі аб'ектыўныя ўмовы, чэзнуць і разбураюцца. У чым прычына? Прычына ў тым, што першай групай калгасаў кіруюць сапраўдныя камуністы, а другой групой кіруюць шляпы, праўда, з партыйным білетам у кішэні, але усё-ж шляпы.

Паўстае запытаньне, прычым тут сяляне?

Рэзультатам недаацэнкі ролі і адказнасьці камуністаў зьяўляецца тое, што нярэдка прычыну недахопаў нашай работы ў вёсцы шукаюць ня там, дзе яе належыць шукаць і, недахопы застаюцца з прычыны гэтага нязьнішчанымі.

Не ў сялянах трэба шукаць прычыну затрудненьняў у збожжазагатоўках, а ў нас саміх, у нашых уласных радох, бо мы стаім на чале ўлады, мы маем у распараджэньні сродкі дзяржавы, мы закліканы кіраваць калгасамі і мы павінны несьці ўсю паўнату адказнасьці за работу на вёсцы.

Такавы галоўныя прычыны, акрэсьліўшыя недахопы нашай работы на вёсцы.

Можна падумаць, што я намаляваў занадта сумны малюнак, што ў нас уся работа на вёсцы складаецца з адных толькі недахопаў. Але гэта, зразумела, няправільна. На самой справе наша работа на вёсцы мае побач з гэтымі недахопамі цэлы рад сур'ёзьнейшых і рашаючых дасягненьняў. Але я ўжо сказаў у пачатку сваёй прамовы, што ў мае задачы не ўваходзіць характарыстыка нашых дасягненьняў, што я ўзяўся гаварыць толькі аб недахопах нашай работы на вёсцы.

Ці можна выправіць гэтыя недахопы? Так, бязумоўна можна.

Ці выправім мы іх у бліжэйшы час? Так, бязумоўна выправім. У гэтым ня можа быць ніякага сумненьня.

Я думаю, што палітаддзелы МТС і саўгасаў зьяўляюцца адным з тых рашаючых сродкаў, пры дапамозе якіх можна будзе зьнішчыць гэтыя недахопы ў самы кароткі тэрмін. (Бурныя, доўга несьціхаючыя аплёдысмэнты).

**Прамова правадыра нашай партыі т. Сталіна павінна стаць баявой праграмай кожнай партячэйкі, кожнага ў асобку камуніста ў штодзеннай іх рабоце.**

# НОВЫ ЗАКОН АБ ЗАГАТОЎКАХ—У МАСЫ

Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) і Саўнарком СССР вынёс пастанову „аб абавязковай пастаўцы зярна дзяржаве калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі“. Гэтая пастанова мае вялізарнае палітычнае і гаспадарчае значэньне. Яна зьяўляецца новым моцным зьвяном у шэрагу мерапрыемстваў партыі і ўраду па арганізацыйнаму і гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў, павышэньню ураджайнасьці, уздыму сельскай гаспадаркі і палепшаньню рабочага забесьпячэньня.

У выніку выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады СССР ператварыўся ў краіну самай буйнай у сьвеце сельскае гаспадаркі. За годы пяцігодкі арганізавана звыш 200 тысяч калектыўных гаспадарак з ахопам звыш 60 проц. сялянскіх гаспадарак і 75 проц. усіх сялянскіх пасеўных плошчаў.

За гэты пэрыяд арганізавана 5.000 саўгасаў. Пасеўныя плошчы ў СССР за годы пяцігодкі пашыраны на 21 млн. *га*. Калгаснае будаўніцтва канчаткова і беспаваротна перамагло ў нашай краіне. Канчаткова падарваны карэньні капіталізму у сельскай гаспадарцы і тым самым забясьпечана перамога сацыялізма ў вёсцы, а калгасная гаспадарка ператварылася ў моцную апору сацыялістычнага будаўніцтва.

Але ня так проста ўчарашні дробны вытворца ператвараецца ва ўдзельніка сацыялістычнай вытворчасьці. Адна з асноўных цяжкасьцяй такога ператварэньня заключаецца ў тым, што дробны вытворца, уваходзячы ў калгас, на першых парах ня ўсвоіў яшчэ ў дастатковай ступені неабходнасьці спалучаць свой асабісты інтарэс з інтарэсам агульнадзяржаўным. Гэтую абставіну вельмі ярка падкрэсьліў тав. Сталін у сваей гістарычнай прамове „Аб рабоце на вёсцы“, на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б). Аднаасобнік сам павінен быў клапаціцца аб сваёй гаспадарцы, бо яму не на каго была ўзваліць адказнасьць за гэту гаспадарку, якая была яго асабістай гаспадаркай, не на каго была разьлічваць акрамя сябе самаго... „З пераходам на калектыўную гаспадарку справа істотна зьмянілася. Калгас ня ёсьць аднаасобная гаспадарка. Калгасьнік так і гаворыць цяпер: „Калгас мой і ня мой! Ён мой, але разам з тым належыць Івану, Філіпу, Міхаілу і іншым членам калгаса, калгас агульны“. Цяпер ён, калгасьнік, учарашні аднаасобнік і сёнешні калектывіст, цяпер ён можа ўзваліць адказнасьць і можа разьлічваць на іншых членаў калгаса, ведаючы, што калгас не пакіне яго бяз хлеба“.

Тыя цяжкасьці, якія мы мелі ў 1932 годзе ў адносіне збожжазагатовак, тлумачацца ў значнай меры тым, што многія работнікі вёскі і раёнаў ня ўлічылі гэтай новай абстаноўкі, паддаліся адсталым настроям учарашніх аднаасобнікаў, аказаліся ў палоне іх індывідуалістычных перажыткаў, пайшлі на паваду апартуністаў.

Новая пастанова Саўнаркома і ЦК партыі ўстанаўлівае для калгасаў і аднаасобных гаспадарак узамен існуючай дагаворнай сыстэмы збожжазагатовак цьвёрдыя абавязацельствы па здачы зярна дзяржаве па ўстаноўленым дзяржаўным цэнам з тым, што гэтыя абавязацельствы маюць сілу падатку, прадстаўляюць сабой асобае спалучэньне прыватнага інтарэса з агульным пры пэўнай перавазе агульнага інтарэса над прыватным. Ужо вопыт прымяненьня падатковага мэтада ў адносіне мясазагатовак, як указаў тав. Молатаў у сваім дакладзе на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б), паказаў сваю поўную жыцьцёвасьць і сваячасовасьць. Пастанова Саўнаркома і ЦК вызначае нормы здачы калгасамі дзяржаве зярна з ураджая 1933 году, а таксама тэрміны здачы. **Для БССР сярэдняя норма здачы зярна 0,8 цэнтнера з га, для калгасаў не абслугоўваемых МТС, і 0,6 цэнтнэра з га для калгасаў, абслугоўваемых МТС.**

Для аднаасобных гаспадарак пастанова, уводзячы падатковыя абавязацельствы па здачы зярна дзяржаве, захоўвае існуючы зараз парадак апрадзяленьня разьмераў збожжаздачы дзяржаве. Сельсаветы ўстанаўліваюць для кожнае аднаасобнае гаспадаркі цьвёрдае абавязацельства па здачы зярна дзяржаве, зыходзячы з фактычна засеяных плошчаў азімых і цьвёрдага пляна сяўбы яравых зернавых культур, устаноўленага сельсаветам для кожнае аднаасобнае гаспадаркі. Здача зерневых аднаасобнымі гаспадаркамі з кожнага *га* павінна быць на 5—10 проц. вышэй нормы, устаноўленай для калгасаў у даным раёне.

Не пазьней 15 сакавіка кожнаму калгасу, а таксама кожнай аднаасобнай гаспадарцы павінна быць уручана абавязацельства па здачы зярна дзяржаве з паказаньнем разьмераў і тэрмінаў задачы. Сваячасова вызначаючы цьвёрдыя абавязацельствы па здачы зярна дзяржаве, новы закон дае магчымасьць кожнаму аднаасобніку загадзя ведаць свой плян збожжаздачы і што ад іх саміх, ад якасьці іх работы залежыць атрыманьне ў сваё распараджэньне найбольшай колькасьці хлеба. Чым больш, чым ляпей пасее гаспадарка, чым большага ўраджая яна даб'ецца, тым большыя хлебныя лішкі яна будзе мець для калгаснага гандлю.

Пастанова забараняе мясцовым органам улады і загатавіцельным органам дапускаць сустрэчныя пляны і накладаць на калгасы і аднаасобныя гаспадаркі абавя-



Рамонт калёс у калгасе „Верны шлях“.

зацельствы, правышаючыя нормы, устаноўленыя законам. Усе лішкі хлеба, пасьля выкананьня абавязацельстваў здачы дзяржаве, застаюцца ў поўным распараджэньні саміх калгасаў, калгасьнікаў, аднаасобнікаў. Такім чынам акуратна выконваючыя абавязацельства перад дзяржавай змогуць скарыстаць усе выгоды і перавагі калгаснага гандлю. Наадварот, нявыконваючыя свае абавязацельствы калгасы падлягаюць грашоваму штрафу ў разьмеры рыначнай каштоўнасьці недавыкананай часткі абавязацельства, а аднаасобныя гаспадаркі, ня выконваўшыя сваіх абавязацельстваў, прыцягваюцца да судовай адказнасьці.

Зусім зразумела, што новы закон сустрэне шалёнае супраціўленьне з боку клясавага ворага—астаткаў кулацтва, які усімі сродкамі і спосабамі будзе імкнуцца сарваць выкананьне гэтага закона, накіраванага на гаспадарчае і палітычнае ўмацаваньне калгасаў, на пашырэньне пасеваў і павышэньне ўраджайнасьці.

Важнейшай умовай пасьпяховага правядзеньня гэтага закона зьяўляецца павышэньне рэвалюцыйнай пільнасьці і настойлівая, упорная работа па растлумачэньні і ажыцьцяўленьні закона. Кожнаму калгасьніку і аднаасобніку трэба паказаць усе перавагі і выгады новага парадка загатовак асабліва з пункту гледжаньня павышэньня ўраджайнасьці.

Падрыхтоўка да веснавой сяўбы павінна праходзіць, як адзначыў сьнежаньскі пленум ЦК КП(б)Б, пад знакам барацьбы за высокі ўраджай. Новы закон аб збожжазагатоўках зьяўляецца ў гэтых адносінах моцнай зброяй.

Трэба з усёй сілай падкрэсьліць, што правядзеньне ў жыцьцё новага закона аб збожжазагатоўках будзе цалкам залежыць ад нас саміх, ад нашай работы, ад цьвёрдасьці і энэргіі нашых мясцовых арганізацый, ад рашучай барацьбы з клясавым ворагам і яго агентурай,—правым і „левым“ апартунізмам.

„Мы стаім ва ўладзе. Мы распалагаем сродкамі дзяржавы, мы закліканы кіраваць калгасамі і мы павінны несьці ўсю паўнату адказнасьці за работу на вёсцы“. Гэтыя словы правадыра нашай партыі тав. Сталіна павінен няўстанна памятаць кожны камуніст, змагаючыся за сваячасовую падрыхтоўку і пасьпяховае правядзеньне веснавой сяўбы, за пасьпяховае правядзеньне новага закона аб пастаўцы зярна дзяржаве.

# ЗА БАЯВЫЯ ТЭМПЫ, ЗА ВЫСОКУЮ ЯКАСЬЦЬ РАМОНТНАЙ!

## Максымальна выкарыстаць кожны дзень зімовага пэрыяду з тым, каб трактарны парк выступіў у поле падрыхтаваным.

## Руйнуючы ўдар па апартуністычнай стаўцы на самацёк у рамонце трактараў

Ход рамонту трактараў і сельска-гаспадарчых машын праходзіць яўна нездавальняюча. Па сыстэме упаўнаркомсаўгасаў на 25 студзеня з патрэбных адрамантаваць 674 трактараў—адрамантавана 105. Збоку саўгасных трэстаў праяўляюцца злачынна няўважлівыя адносіны да гэтай справы. Адказныя за рамонт ня вылучаны і па большасьці саўгасаў яшчэ не заключаны дагавары з майстэрнямі, а дзе і заключаны—там адсутнічае іх праверка (па Віцебскім, Гомельскім і Магілеўскім малакопромтрэстам). Трэсты ня ведаюць—ці адвезены з саўгасаў у майстэрні хворыя трактары. Слаба правяраецца, а па большасьці—зусім адсутнічае праверка якасьці трактараў, выпускаемых з рамонту. Самыя трактарныя майстэрні не сканцэнтравалі сваёй увагі на сваячасовым заканчэньні рамонту. Унутраныя рэсурсы не скарыстоўваюцца. Запасных частак не хапае—і ніякіх захадаў для іх набыцьця ня прымаецца.



Рамонт плуга ў камуне „Авангард“.

З боку ўпаўнаркомсаўгасаў праяўлена яўная бязьдзейнасьць. На працягу апошняга месяцу ён толькі і займаўся тым, што паволі надсылаў сабе трэстам цыркулярныя лісты, а іх ажыцьцяўленьнем, праверкай іх выкананьня абсалютна ніхто ня цікавіўся.

Пастанова сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 28 студзеня аб становішчы ходу рамонту і падрыхтоўкі машына-трактарнага парку БССР да веснавой пасеўнай кампаніі і ўзварушыла людзей у цэнтры і на мясцох і робіць належны пералом. Так, Гомельскі і Віцебскі малакопромтрэсты заключылі дагавары з мясцовай прамысловасьцю на выраб некаторых запасных частак, неабходных для рамонту трактараў.

„Для забесьпячэньня выкананьня ў тэрмін пастановы пленуму ЦК аб заканчэньні рамонту трактарнага парку і сельска-гаспадарчых машын 15 сакавіка, ЦК зварачвае выключную ўвагу на якасьць рамонту. Устанавіць, як правіла, што трактар лічыцца адрамантаваным тады, калі падпісан акт здачы і прыёмкі загадчыкам майстэрні, а ў заводах—заг. цэху, старшым трактарыстам МТС саўгасу, які замацаван для работы на гэтым трактары“,—так ставіць задачу пастанова сакратарыяту ЦК КП(б)Б.

Гэта павінна стаць у цэнтры ходу ўсёй рамотнай кампаніі. Сацыялістычныя палі чацьвертай бальшавіцкай вясны павінны атрымаць здаровага сталёвага каня.

З. Р.

**Рамонт трактараў і сельскагаспадарчага інвэнтару, збор насеньня, умацаваньне грамадзкай уласнасьці, выкрыцьцё і ачышчэньне калгасаў ад кулакоў і гультаёў—вось што павінна быць зараз у цэнтры масавай работы на вёсцы.**

# ТЭХПРАПАГАНДА Ў БОЙ ЗА ЎРАДЖАЙ

Шырокае разгортваньне масавай агратэхвучобы ў гуртках—адказнейшая задача ў зімовы пэрыяд партыйных і савецкіх арганізацый і спэцыялістых. Дабіцца арганізацыі гуртка ў кожнай вытворчай брыгадзе, забясьпечыць бесьперабойную яго работу, падабраць адпаведных кіраўнікоў—такава задача.

Гурткі павінны поўнасьцю скарыстаць сельскагаспадарчую літаратуру, часопісы, газэты (выпускаючы зьменныя палосы ў дапамогу гурткам), лістоўкі, плякаты, шырока ставіць даклады спэцыялістых, брыгадзіраў на канфэрэнцыях, вытворчых нарадах, наладжваць вечары пытаньняў і адказаў, кансультацыі і г. д. Устаноўка радыёпрыёмнікаў і арганізацыя калектыўнага радыёслуханьня сельскагаспадарчых лекцый таксама дапаможа рабоце гурткоў. Праз радыё патрэбна папулярызаваць навукова-тэхнічныя дасягненьні, вопыты лепшых гаспадарак.

Пры кожным калгасе, саўгасе, МТС павінен быць арганізаван агратэхгурток, у якім паказаны ў дыяграмах і плякатах лепшыя дасягненьні ў галіне сельскай гаспадаркі, лепшыя экспанаты лепшай брыгады ці калгасу, саўгасу; пры гуртку павінна быць агратэхнічная бібліатэчка, якая павінна абнаўляцца новай літаратурай.

У кожным раёне патрэбна стварыць аграгабінэты, пры якіх будуць канцэнтравацца навукова-тэхнічныя дасягненьні, павышаць кваліфікацыю спэцыялісты, набываць сельска-гаспадарчыя веды земработнікі, камсамольцы, праводзіцца розныя навукова-дасьледчыя вопыты і г. д.

У аграгабінэтах павінны быць усе неабходныя сродкі для правядзеньня тэхпрапаганды і навуковых досьледаў: добра падабраная бібліатэчка, праэкцыйны ліхтар, фото-апарат, модэлі, муляжы, дыяграмы, таблiцы, плякаты, розныя прэпараты і г. д.

Пры аграгабінэце-ж патрэбна арганізаваць стацыянарную выстаўку лепшых дасягненьняў раёну, паасобных калгасаў і брыгад. Чаму, напрыклад, калгас „Чырвоны Турын“, Пухавіцкага раёну, атрымаў з 1 *га* 17 *цнт* яравой пшаніцы, а калгас імя Леніна таго-ж раёну толькі 3 *цнт* альбо чаму калгас „Шлях Леніна“, Чырвона-Слабодзкага раёну атрымаў з 1 *га* 13 *цнт* азімай пшаніцы, а калгас „Майскі Луч“, таго-ж Чырвона-Слабодзкага раёну, толькі 2 *цнт* і г. д.

З мэтай шырокага абмену вытворчым вопытам, вывучэньня лепшых дасягненьняў патрэбна шырока практыкаваць экскурсіі калгасьнікаў, рабочых саўгасаў і МТС у межах СССР, БССР і ў межах свайго раёну, дзе заўсёды можна знайсьці значныя дасягненьні ў галіне сельскай гаспадаркі.

Перад кожнай кампаніяй, вясеньняй пасеўнай, уборачнай і г. д. патрэбна склікаць зьлёты брыгадзіраў, ударнікаў-калгасьнікаў, старшынь калгасаў, з мэтай праверкі гатоўнасьці да той ці іншай кампаніі, з мэтай шырокага абмену вытворчым вопытам і абмеркаваньня канкрэтных агратэхнічных мерапрыемстваў, якія абавязкова павінны ўжывацца ў калгасах.

Тэхпрапаганда павінна праводзіцца ў поўнай адпаведнасьці з навейшымі дасягненьнямі навукі і тэхнікі, з улікам практыкі перадавых саўгасаў і калгасаў. Прапаганду патрэбна весьці з жыцьця, з рэальных дасягненьняў навукі і практыкі сацыялістычных гаспадарак, для чаго патрэбна мець улік гэтых дасягненьняў.

Навуковыя дасягненьні на сацыялістычныя палі—задача ўсіх тэхпропаў і Навуковых устаноў. Але на вялікі жаль дасягненьні навукова-дасьледчых устаноў застаюцца яшчэ на дзялянках, на вопытных вучастках, яны ня выйшлі яшчэ на саўгасную і калгасную вытворчасьць.

Надыходзіць 4-я бальшавіцкая вясеньняя пасеўкампанія, якую патрэбна сустрэць у поўнай гатоўнасьці. Тэхпропы павінны арганізаваць справу ў раёне і калгасах так, каб сваячасова былі засыпаны насенныя і страхавыя фонды, каб усё насеньне было



Насенны фонд калгасу „Чырвоная Слабада“.

ачышчана на веялках, сартыроўках і трыерах, каб усе зернаачышчальныя машыны мелі поўную нагрузку, каб атруты для пратручваньня былі на мясцох і прыступаць паступова да пратручваньня зараз, каб інвэнтар і сельска-гаспадарчыя машыны былі да сакавіка поўнасьцю адрамантаваны, каб увесь гной быў вывезены на поле, мінэральныя ўгнаеньні безадкладна завезены ў глыбінныя пункты, арганізаваць збор попелу і захаваньне яго, мабілізаваць усе сілы на ўвядзеньне правільных севазваротаў ва ўсіх калгасах, добры догляд і належная падрыхтоўка коняй да веснавой пасеўнай кампаніі і г. д.

Адказная роля ва ўсёй гэтай рабоце належыць камсамолу, бо „кожная ячэйка—тэхпроп“. Такім чынам тэхпропы складаюцца з раённага работніка і камсамольскіх ячэек пры мабілізацыі на гэту справу ўсіх спэцыялістых і грамадзкасьці.

Шырокая вытворчая агратэхпрапаганда павінна ахапіць мільённыя масы калгасьнікаў, рабочых саўгасаў, МТС і працаўнікоў-аднаасобнікаў і служыць справе ўздыму ўраджайнасьці, арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў і выкананьню ўсіх задач, пастаўленых перад намі партыяй і ўрадам.

**Н. Бойка.**

## Усебеларускі спіс гонару

### Заносім у сьпіс лепшых змагароў за сацыялістычны ўраджай

*Працяг. Гл. № 2.*

30) **Калгас „Неперраможны“**, Магілеўскага раёну, у параўнаньні з 1931 годам значна павысіў ураджайнасьць сваіх палёў. Калі ўраджай у 1931 годзе складаў з 1 *га* жыта 3—4 *цнт* і пшаніцы 6 *цнт*, дык у 1932 годзе 1 *га* жыта дасягнуў да 7 *цнт* і пшаніца 8 *цнт* з 1 *га*.

Значна павысіўся ўраджай ячменю і грэчкі. Замест 7 *цнт* ячменю, 4 *цнт* грэчкі у 1931 годзе, калгас атрымаў у 1932 годзе грэчкі 6 *цнт*, ячменю 10 *цнт* з 1 *га*.

31) **Саўгас „Боркі-Бялевічы“**, Чырвона-Слабодзкага раёну, дамогся значных посьпехаў у штодзеннай барацьбе за сацыялістычны ўраджай.

Дзякуючы ўнядрэньню агратэхнікі ва ўсе працэсы апрацоўкі глебы і поўнага скарыстаньня ўсіх відаў ўгнаеньня дабіўся значнага павышэньня ўраджайнасьці. Так у 1932 годзе ўраджай з 1 *га* азімай пшаніцы 14 *цнт*, жыта 13,5 *цнт* і ячменю 7 *цнт* з 1 *га*.

32) **Калгас „13-годзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі“**, Тураўскага раёну, ідзе ў першых радох раённых змагароў за сацыялістычны ўраджай.

У 1932 годзе 1 гектар жыта даў 10,2 *цнт*, яравая пшаніца 7,5 *цнт* і ячмень 16 *цнт* з 1 *га*.

33) **Калгас „Чырвоны Турын“**, Пухавіцкага раёну, дзякуючы высокаякаснай апрацоўцы глебы і ўжываньню ўгнаеньняў дамогся значнага павышэньня ўраджайнасьці. Так у 1932 годзе 1 *га* яравой пшаніцы атрымаў 17 *цнт*, ячмэню 9 *цнт* і жыта 8 *цнт* з 1 *га*.

## Як мы змагаемся за ўраджай

*(Любаньскі раён)*

Дзякуючы таму, што ўсе калгасьнікі калгасу „Чырвоны Барацьбіт“ зразумелі значэньне падвышэньня ўраджайнасьці і зьявіліся лепшымі барацьбітамі за гэтую справу, калгас дамогся вялікіх дасягненьняў. У 1932 годзе адзін *га* жыта пры ўвядзеньні мінімуму агратэхнічных мерапрыемстваў даў 10,3 *цнт*. Ураджай бульбы роўны 141,16 *цнт* з *га*, ячмень з 9 *цнт* павялічыўся да 10,5 *цнт*.

Бачачы, што толькі пры добрых адносінах да апрацоўкі глебы, прымяняючы агратэхнічныя мерапрыемствы да ўгнаеньня зямлі, можна дасягнуць большага ўраджаю, калгасьнікі па ўдарнаму ўзяліся за гэтую справу.

Увосень мінулага году закладзена ў глебу: супэрфасфату 0,5 *т*, фасфарытнай мукі—1 *т*, попелу 0,5 *цнт*, завапнавана 4 *га* або 100 проц. выкананьня заданьня, затарпавана 7 *га* або 70,1 проц. пляну. Зяблівае ворыва зьяўляецца адказнейшым зьвяном нашай працы. Калі мізэрная лічба 38 *га* ўзьняцьця зябі ў пазалеташнім годзе паказала карысьць, то ў гэтым мы маем узьнятай зямлі на зяб 67,4 *га*.

### Нашы змагары

Стварэньне сталых і моцных брыгад—большая прадукцыйнасьць і якасьць працы. І толькі дзякуючы гэтаму мы мелі і маем перамогу па ўсіх вучастках нашай вытворчасьці. Пры ўборцы мы дамагліся канчатковага зьнішчэньня страт. Ні адна культура не засталася на полі ня ўбранай. Вось нашы героі, якія па-ўдарнаму змагаліся за павышэньне ўраджайнасьці і выкананьне ўсіх гаспадарчых работ: **Кацгарэля Янка, Шумчэня Якуб Т., Каўгарэня Сьцяпан і Макідон Сьцяпан і Зьмітрука Янка.** За час работы ў калгасе яны былі некалькі разоў прэміяваны.

### Нашы абавязкі

Калгас „Чырвоны Барацьбіт“ распачаў падрыхтоўку да веснавой пасеўкампаніі. Ужо прыступілі да рамонту сельгасмашын і інвэнтару. Праводзіцца ачыстка насеньня. Працуюць гурткі па аўладаньні агратэхнікай і г. д.

Іншыя калгасы Любаньшчыны павінны пераняць вопыт калгасу „Чырвоны Барацьбіт“ і выпрацаваць свае практычныя мерапрыемствы па праводзеньні падрыхтоўчай работы да веснавой сяўбы і падвышэньні ўраджайнасьці.

**Гр. Круглоў.**

**КАЛГАСЫ, КРАІНА ЧАКАЕ АД ВАС ВЫСОКІХ УРАДЖАЕЎ!**

# Змагары за ўраджай

(*Магілеўскі раён*)

— Што пасеем—то і пажнем,—гаворыць загадчык гаспадаркі калгасу „Колас“.

— Хаця гэта і даўняя прыказка, але яна і дагэтуль засталася праўдзівай. Вось вам адзін цікавы прыклад. — Ёсьць у нас вось за гэтым узгоркам маленькая купіна паміж хмызьняку...

— Дык вось на гэтай купіне калісьці некалькі год падрад сеяў адзін гаспадар збожжа... Зямля на ёй была вельмі цяжкая, ніяк не паддавалася апрацоўцы... Яшчэ і зараз спатыкаюцца карчы. Там быў густы сасоньнік...

Ён прыпыніўся на гэтым і выняў з замасьленай фуфайкі ільняны вышываны кісет і скруціў нязграбную цыгарку. У маленькай канторцы запахла вясковым, прэлым тытуном. Тонкія няроўныя ніткі дыму быццам сучыліся ў вялікія маткі—расплываліся пад стольлю нізкага памяшканьня.

— Дык вось такая купіна была вельмі непадатная. Гаспадар колькі ня мучыўся, чаго ня сеяў, нічога ня выходзіла. Сее авёс—няма нічога, пуста як на пяколку—сее грэчку, тое самае, і так усе культуры... Праўда адно проса крыху радзіла... А зараз у нас на той купіне атрымліваюцца найлепшыя ўраджаі.

## Шануй глебу

... Калгас „Колас“ арганізаваўся вельмі даўно. На сёнешні дзень ён ужо мае за сабою дзесяцігадовы шлях упартай і напружанай працы. Спачатку заснаваньня калгас налічваў каля дзесятку яўрэйскіх працоўных сем'яў.

Дзякуючы таму, што партыйная і камсамольская ячэйкі наладзілі сапраўдную работу сярод аднаасобнікаў, калгас значна ўзрос за лік бядняцка-серадняцкай часткі аднаасобнікаў.



Ачыстка насеньня ў калгасе „Перамога“.

Спачатку аднаасобнікі да калгасу аднесьліся ня зусім добра. Кулакі ўсялякімі сродкамі імкнуліся перацягнуць іх на свой бок, усялякімі паклёпамі абліць калгас.

Але нічога не змагло затрымаць напорнага руху ў калгасы. Аднаасобнікі на канкрэтных даказчыках зразумелі выгаднасьць калектыўнай працы.

... На сёнешні дзень калгас значна ўмацаваўся і вырас. Калгас з яўрэйскага ператварыўся ў інтэрнацыянальны. У калгасе супольна працуюць, змагаюцца за павышэньне ўраджайнасьці—яўрэі, беларусі і палякі. Усяго ў калгасе зараз аб'яднана 160 працоўных сем'яў.

У раёне Каласоўцы амаль першымі заўсёды ідуць па выкананьні абавязкаў перад пралетарскай дзяржавай. Усе віды нарыхтовак выкананы поўнасьцю і своечасова. Часткова праведзена першапачатковае разьмеркаваньне калгасных даходаў.

У калгасе маецца вялікая малочная фэрма. Сёлета збудавана яшчэ адно памяшканьне пад кароўнік. Каласоўцы па-бальшавіцку змагаюцца за разгортваньне сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Адыход маладняку на фэрме зусім адсутнічае.

Вось кароценька той вялікі шлях, які ў бурах клясавай барацьбы і перамог прайшоў „Колас“.

Вялікую ўвагу аддалі каласоўцы ў гэтай барацьбе на павышэньне ўраджайнасьці. Калі першыя гады ўраджаі ў калгасе былі вельмі маленькія, то зараз па павялічэньню ўраджайнасьці „Колас“ займае першае месца ў раёне.

Яшчэ зусім нядаўна калгас атрымліваў вельмі мізэрныя ўраджаі. Вось яскравая ілюстрацыя: у 1931 годзе 1 *га* ячменю даваў 7—8 *цнт*, жыта 6 *цнт* і бульбы каля 60 *цнт* ураджаю.

У 1932 годзе ўраджай значна павысіўся. 1 *га* ячменю дае 12,5 *цнт*, жыта 8,2 *цнт* і бульба 100,5 *цнт*. Лічба яскрава гаворыць пра рост ураджайнасьці.

## Апрацоўка і ўгнаеньне—сакрэт перамог

— Самае галоўнае—атрыманьні добрага ўраджаю,—кажа брыгадзір паляводчай брыгады тав. **Савіцкі**,—сумленна і добра апрацоўваць глебу.

— Глеба тая самая карова; калі добра яе прыгледзіш, добра накорміш—яна табе добра і адплоціць. Палявыя работы мы праводзілі наступным парадкам.

... У ранейшыя гады існаваньня калгасу было так. Падрыхтоўка да выхаду ў поле пачыналася адразу ў той самы дзень, калі трэба была выяжджаць у поле.

Зяблівае ворыва амаль, што ніколі не праводзілася. Былі такія выпадкі, калі рабіліся пасевы па адной успашцы. Але гэта засталося ў мінулым.

Вясна 1932 году была па-бальшавіцку сустрэта. У гэтай рабоце выключную ролю адыграла партыйная і камсамольская ячэйкі.

Зяблівае ворыва была поўнасьцю паднята ў мінулую восень. Гэта тлумачыцца тым, што калгасьнікі своечасова ўлічылі промахі мінулых гадоў добра зразумелі запатрабаваньні глебы.

Асаблівую барацьбу праводзілі каласоўцы за якасьць апрацоўкі глебы. Па гэтым пытаньні пра-

водзіліся спэцыяльныя нарады на полі з тымі брыгадамі, якія працавалі па апрацоўцы глебы.

Брыгадзіры па-ўдарнаму змагаліся за добраякаснае ворыва і пасеў, назіраючы за асобнымі работнікамі ўсяе брыгады.

Вялікае значэньне адыграла ўгнаеньне. Калі ў мінулыя гады ўгнаеньню зусім мала надавалася ўвагі, то ў гэтым годзе вывозка і захаваньне гною была неадкладнай задачай. Амаль усё поле пад азімы і яравы клін было ўгноена штучнымі і мінэральнымі ўгнаеньнямі.

Вось якім чынам каласоўцы дамагліся павышэньня ўраджайнасьці. „Колас" мае сваіх ударнікаў, герояў, якія па-бальшавіцкі змагаліся за высокі ўраджай.

Вось яны — Савіцкі В., Генькін П., Садоўскі, Гладкоў, Генькіна Ч., Банэцкая Д., Савіцкая, і шэраг іншых.

### За ўдарную падрыхтоўку да вясны

Самае галоўнае, каб атрымаць добры ўраджай, трэба па-бальшавіцку падрыхтавацца да выхаду ў поле. Прывесьці ў баявы парадак неабходныя машыны і прылады, і калі пачнецца вясна, рухнуць штурмам на поле... Узараць яго добра, разрыхліць глебу, каб яна зрабілася пульхнай, угноіць яе як сьлед, тады можна сеяць і чакаць ураджаю...

Каласоўцы ўжо прыступілі да правядзеньня падрыхтоўчай работы да веснавой пасеўкампаніі. Да кожнага калгасьніка даведзена значэньне падрыхтоўчай работы. Праведзены спэцыяльныя нарады і сходы.

Зараз па-ўдарнаму разгортваецца рамонт сельска-гаспадарчага інвэнтару, поўнасьцю праведзена ачыстка і пратручваньне насеньня.

Зараз каласоўцы вывозяць з хлявоў гной на поле пад яравы клін. Ужо каля паловы яравога кліна завалена ўгнаеньнем.

— І вось, як толькі зямля ачуняе ад халадоў і сьнягоў, калі запяюць жаўранкі і зьявіцца першая зялёная траўка — мы падрыхтаванымі выедзем у поле...

Будзем яшчэ больш змагацца:
— За якасьць апрацоўкі!
— За высокі ўраджай!

**К. Лазаравіч.**

# Павысім ураджайнасьць натуральных лугоў і выпасаў

Аднэй з асноўных задач у павышэньні ўраджайнасьці зьяўляецца стварэньне моцнай кармовай базы для нашай сацыялістычнай жывёлагадоўлі. У вырашэньні гэтага пытаньня натуральныя лугі і выпасы і ў далейшым будуць адыгрываць вельмі вялікую ролю.

Па ступені забясьпечанасьці натуральнымі лугамі і выпасамі БССР займае амаль першае месца ў Саюзе. На кожныя 100 *га* пахаці мы маем: 53 *га* лугу, ды 10 *га* выпасаў і амаль 10 *га* рознага гатунку балот. Увогуле да $^3/_4$ *га* лугу і выпасаў на 1 *га* пахаці. Але мы вельмі дрэнна скарыстоўваем гэтыя ўжыткі. У выніку ўраджайнасьць нашых лугоў і якасьць сена нізкія (10—12 *цнт* з *га*). А выпасы не забясьпечваюць належнага пасьвішчнага ўтрыманьня нашай жывёлы.

Аднэй з важнейшых складаных частак сена зьяўляецца бялок. Як паказваюць досьледы, колькасьць яго ў сене ў вельмі вялікай ступені залежыць ад тэрмінаў уборкі апошняга. Досьледы Марусінскай дасьледчай станцыі паказалі, што пры касьбе цімафееўкі ў час яе калашэньня атрымана бялку ў сене 250 *кг* з *га*, у пачатку цьвіценьня — 209 *кг* з *га*; у канцы цьвіценьня—136 *кг* з *га* і пры касьбе ў час яе высьпяваньня—119 *кг* з *га*.

Валагодзкі малочны інстытут скармліваў каровам канюшына-цімафеечнае сена, скошанае ў розныя тэрміны. Пры гэтым ад скармліваньня сена, скошанага з *га* ў пачатку яго цьвіценьня—атрымана 5843 літры малака; ад скармліваньня сена, скошанага ў пэрыяд яго поўнага цьвіценьня, атрымана 4321 літр, і ад скармліваньня сена з *га*, скошанага пасьля яго цьвіценьня, атрымана малака 1435 літраў. Як бачым сваячасовая ўборка сена мае вялізарны ўплыў на харчовую якасьць яго. А між тым мы каля паловы свайго сена (каля мільёна *га*) у 1931 і 1932 годзе ўбралі несвоечасова. Гэта значыць мы не дабралі ў ім 40—50% бялку. А гэтага бялку хапіла-б на ўтварэньне дадатковых 2—3 пудоў малака з кожнага гектару нашага лугу.

Апрача таго, з-за позьняй касьбы мы ня маем магчымасьці атрымаць належны ўраджай атавы. А між тым атава па вазе роўна 30—40 проц. першага ўкосу. Па якасьці-ж гэта высока-каштоўны корм, які можна было-б скарыстаць у выглядзе сена (другі ўкос), ці на сілас. Трэба, аднак, сказаць, што і ў гэтых адносінах мы зусім не выкарыстоўваем маючыся ў нас магчымасьці. Так, па пляну ў 1932 годзе павінна была быць скошана ў другі раз 425 тыс. *га*, скошана-ж усяго толькі каля 30 тыс. *га*.

Вельмі адмоўна адбіваецца на ўраджайнасьці нашых лугоў пасьба жывёлы на іх. Жывёла сваімі капытамі ізрэджвае травастой. У сьлядох жывёлы скапляецца вада. У выніку пагаршаецца доступ паветра ў дзёран. Каштоўныя травы (бабовыя і злакавыя) паступова вымiраюць і на іх месца ўкараняюцца вадалюбівыя асокі, мох і г. д. Гэта гаворыць аб тым, што мы павінны дабіцца спыненьня пасьбы жывёлы на лугох. Павінны забясьпечыць сваячасовую сенаўборку. У выніку мы зможам атрымаць з сваіх лугоў на 40—50 проц. бялку больш, чым мы з яго атрымоўваем зараз.

Разам з тым мы павінны асаблівую ўвагу зьвярнуць на павярхоўнае палепшаньне нашых лугоў і выпасаў. У гэтым напрамку перш за ўсё неабходна забясьпечыць правільны рэжым (узровень) грунтовых вод на лугох і выпасах. Для чаго: спусьціць з іх павярхоўныя воды, а дзе трэба — панізіць узровень грунтовых вод. Сродкі для спуска павярхоўных вод з лугоў і выпасаў—асушальныя канавы. Досьледамі ўстаноўлена, што правільны ўзровень грунтовых вод забясьпечвае посьпех усіх далейшых мерапрыемстваў па павярхоўнаму палепшаньню лугоў і выпасаў. Разам з тым ён садзейнічае палепшаньню якасьці травастою гэтых ужыткаў. Так, па дадзеных Турскай дасьледчай станцыі пасьля спуска павярхоўных вод з луга колькасьць

бабовых і злакавых у яго травастоі павысілася з 20,71 проц. да 74—88 проц. Колькасьць асок, наадварот, упала з 71,42 проц. да 26,02 проц.

Ачысьціць лугі і выпасы ад кустарнікаў, куп'я, мурашнікаў, кратавін, сорнай расьліннасьці. Гэта пашырыць карысную плошчу лугоў і выпасаў на 15 — 20 проц, і павялічыць іх ураджайнасьць на 20—50 проц., адначова значна палепшыцца якасьць сена. Пашырыцца магчымасьць для ўтварэньня сенаўборкі на лугах мэханічным спосабам. Для забесьпячэньня найвышэйшай ураджайнасьці расьцярэбленых вучасткаў трэба абсемяняць мешанкай лугавых траў. Гэты лепшы сродак не дапусьціць укараненьня на гэтых плошчах сорнай расьліннасьці і малакаштоўнага рознатраўя.

Досьледамі ўстаноўлена, што ўгнаеньне лугоў і выпасаў, пры правільным рэжыме грунтовых вод— самы лепшы сродак па павярхоўнаму палепшаньню памянёных ужыткаў. Як паказваюць досьледы, нашы сухадольныя лугі і выпасы асабліва добра адклікаюцца на ўнясеньне калійных угнаеньняў. На нізінных сухадольных і балотных лугох здавальняючыя вынікі даюць калійныя і фосфарныя ўгнаеньні. Кіслыя нізінныя лугі і выпасы мэтазгодна вапнаваць. Гной па свайму дзеяньню на сухадольных лугах і выпасах дае нават лепшыя вынікі, чым поўнае мінэральнае ўгнаеньне (ураджай сена з гектара: па гною—49,36 *цнт*, па мінэральнаму ўгнаеньню—34,96 *цнт*). Мы маем у выглядзе торфа вялікія магчымасьці для павышэньня колькасьці гною шляхам закладкі кампостных куч. Скарыстаць рэсурсы торфа, забясьпечыць найбольшае павялічэньне колькасьці гною для лугоў і выпасаў — першачарговая задача па палепшаньні гэтых ужыткаў. Гнойная жыжа і попел на сухадольных лугох і выпасах амаль ня ўступаюць поўнаму мінэральнаму ўгнаеньню. Мы павінны поўнасьцю сабраць попел і поўнасьцю-ж скарыстаць яго і гнойную жыжу для ўгнаеньня нашых лугоў і выпасаў.

Баранаваньне мэтазгодна ўтвараць на заліўных і на нізінных сухадольных і балотных лугох. Гэта— сродак для ачысткі заліўных лугоў ад гальля, сьмецьця і плёкі пасьля вясеньніх паводак, а нізінных і балотных лугоў — ад моху. Баранаваньне сухадольных лугоў і выпасаў дае здавальняючыя рэзультаты толькі пры адначасовым падсеве траў.

Пры ажыцьцяўленьні прасьцейшых мерапрыемстваў па палепшаньні лугоў і выпасаў мы можам павялічыць ураджайнасьць гэтых ужыткаў у параўнаньні з цяперашняй на 30—40 проц. (3—4 *цнт* сена з кожнага *га*) і гэтым самым павялічыць нашыя кармавыя рэсурсы. Аднак мы зусім недаацэньваем гэтай справы. Аб гэтым гаворыць тое, што ў 1932 годзе плян па павярхоўнаму палепшаньні лугоў і выпасаў фактычна быў сарван. Замест 300 тыс. *га* па пляну, палепшаньні зроблены толькі на плошчы каля 10 тыс. *га*.

Сваячасовая сенаўборка, палепшаньне лугоў і выпасаў, арганізацыя правільнай пасьбы жывёлы пазбавіць нас ад неабходнасьці пасьвіць жывёлу ў напары і па сьцёрну. А гэта павысіць ураджайнасьць нашых збожжавых культур *цнт* на 2 па зярну і *цнт* на 3—4 па саломе з кожнага *га*. Павялічаньне бялку ў сене, больш высокая ўраджайнасьць апошняга, павышэньне ўраджайнасьці збожжавых у значнай меры павялічыць колькасьць хлеба, колькасьць прадуктаў жывёлагадоўлі. Такім чынам палепшаньне лугоў і выпасаў адзін з магутных рычагоў па яшчэ большаму ўзмацненьню нашай збожжавай гаспадаркі, па вырашэньні праблемы жывёлагадоўлі.

**Гарэлікаў.**

**Ад рэдакцыі.** У бліжэйшых нумарох нашай часопісі будзе зьмешчан артыкул т. Гарэлікава, як правільна арганізаваць пасьбу жывёлы на выпасах.

# У паход супроць пустазельля

Усім вядома на колькі пладавіта распаўсюджана рознае пустазельле па нашых палёх. Яно аднімае спажыўныя матэрыі ў культурных расьлін, яно аднімае вільгаць з глебы, заглушае і засушвае хлебу; перашкаджае пасеву і ўборцы хлеба, перашкаджае рабоце машын, атручвае збожжа, служыць рассаднікам усякіх хвароб і шкоднікаў.

Пустазельле засталося нам як зьлейшая спадчына дробнай, аднаасобнай гаспадаркі, яно разьвілося ў выніку нашай адсталасьці ў агратэхніцы. Пустазельле зьяўляецца рэзультатам дрэннай якасьці апрацоўкі глебы, ігнарыраваньня прасьцейшых агратэхнічных мерапрыемстваў.

Зараз абвешчаны Ўсесаюзны камсамольскі паход супроць пустазельля. Усе камсамольцы, калгасьнікі, усе спэцыялісты, грамадзкасьць, школьнікі і піянэры павінны ўключыцца ў гэты паход.

Кожны камсамолец, кожны калгасьнік павінен ведаць найбольш шкоднае, найбольш пашыранае пустазельле; ведаць як з ім змагацца, як зьнішчыць яго, і гэтым самым зьберагчы мільёны пудоў хлеба.

Найбольш шкоднымі сьмяцьцёвымі расьлінамі будуць: дурнап'ян, пырэй, курынае проса, кукаль, васілёк сіні, асот палявы, павіліка ільняная, павіліка канюшынная, лебяда, рэдзька палявая і г. д.

**Дурнап'ян** можна сустрэць ва ўсіх раёнах Беларусі ў пасевах яравых культур. Ачыстка насеньня ад дурнап'яна павінна ўтварацца абавязкова.

**Курынае проса** таксама распаўсюджана па ўсёй БССР. У большасьці на гародах і прапашных культурах. Для зьнішчэньня гэтага пустазельля неабходна сваячасовая прапашка ў радох з пасьлядоўнай праполкай і матыжаньнем радоў і сваячасовае лушчэньне глебы.

**Пырэй**—вельмі пашыранае пустазельле, размнажаецца корнявішчамі, якія цягнуцца да 10—12 *см* над паверхняй глебы. Кожны кавалак корневішча дае рост новай расьліны. Асабліва распаўсюджан у прапашных і гародніх культурах. Зьнішчаюць пырэй выцягваньнем корнявішч пружыннымі культыватарамі і баронамі. Гэтыя корнявішчы зграбаюцца, падсушываюцца і спальваюцца.

**Кукаль**—засьмечвае яравыя збожжавыя культуры. Насеньне кукалю атрутнае. Для барацьбы з кукалем рэкамэндуецца ачыстка насеньня на трыеры і апырскваньне пасеваў рашчынай жалезнага купароса ў 15—20 проц.

**Васілёк сіні**—вельмі часта сустракаецца ў яравых і азімых збожжавых культурах і радзей у прапашных. Мерамі барацьбы будуць: ачыстка насеньня, сваячасовая апрацоўка глебы, лушчэньне жнілішча.

**Асот палявы** зьяўляецца злосным пустазельлем у Беларусі, засьмечвае ўсе культуры збожжавыя, прапашныя і гароднія, асабліва на нізкіх вільготных мясцох. Асот мае стрыжнёвы корань, ад якога адыходзяць бакавыя карэньні да аднаго мэтру даўжынёй. Нават малыя абломкі карэньняў даюць новыя расьліны. Мерамі барацьбы будуць сваячасовая і старанная апрацоўка глебы, няглыбокая зяблівая і прадпасеўная ўспашка, апрацоўка культыватарамі, сваячасовая полка.

**Павіліка ільняная**—паразіт лёну, зьяўляецца самым шкодным зьнішчыцелем лёну. Пашкоджаныя пасевы сохнуць і маюць выгляд выпаленых плям. Для барацьбы—неабходна ачышчаць насеньне праз трыер з сітамі 1,8—1,9 *м/м*. Для зьнішчэньня плям у пачатку паяўленьня павілікі, пасеў скошваецца, паліваецца газай і выпальваецца, а глеба пераворваецца.

Пры вялікім пашкоджаньні пасеваў павілікаю лён нельга сеяць на гэтым месцы 5—6 год.

Ад павілікі канюшыннай мерамі барацьбы будуць ачыстка насеньня на сартыроўцы „кускута" строгі кантроль за насенным матар'ялам.

**Лебеда**—усім вядомая, вельмі распаўсюджаная расьліна, якая засьмечвае збожжа, прапашныя, гароднія культуры і можа вынасіць самыя дрэнныя ўмовы, вельмі пладавітая. Для барацьбы—добрая апрацоўка глебы, ачыстка насеньня.

**Палявая рэдзька**—вельмі засьмечвае яравыя культуры. Мерамі барацьбы зьяўляюцца: ранньяя апрацоўка папару, апырскваньне жалезным купаросам (15—20 проц.).

Паход супроць пустазельля ня вычэрпваецца пералічанымі мерапрыемствамі. Няма аднаго якога небудзь вычарпальнага сродку, які зможа зьнішчыць пустазельле. Для зьніштажэньня яго патрэбна напружаная работа, улічваючы асаблівасьці засьмечанасьці, віды пустазельля і г. д.

Барацьба з пустазельлем—гэта барацьба за якасьць сацыялістычнага земляробства, барацьба за прымяненьне ўсіх правіл агратэхнікі. Затым неабходна: увесьці правільны севазварот, перавесьці лушчэньне, зяблівае ворыва, добраякасна і сваячасова апрацоўваць глебу, недапускаць агрэхаў,—якія зьяўляюцца рассаднікам пустазельля і шкоднікаў. Патрэбна абавязкова сачыць за якасьцю насеннага матар'ялу, недапускаць да пасеву непратручанага і неачышчанага насеньня.

Ачышчаючы насеньне на машынах, патрэбна ачысьціць самыя машыны, мяшкі і збожжахавальнікі. На поле вывазіць толькі перапрэўшы гной, бо калі гной неперапрэе, то шмат якое пустазельле захоўвае ўсходжасьць. Нельга спазьняцца з пасевам, бо позьні пасеў дае магчымасьць добра разьвівацца пустазельлю.

У раёнах патрэбна стварыць кантрольныя пасты, якія будуць кіраваць паходам супроць пустазельля. Кожны камсамолец, кожная камсамольская ячэйка павінны быць ініцыятарамі паходу, супроць пустазельля і адказваць за чыстату сваіх палёў. Барацьба з пустазельлем—агульна дзяржаўная задача. Удзел павінны прымаць калгасы, саўгасы, МТС, навуковыя ўстановы, камсамольцы, піянэры, вучні, спэцыялісты і г. д.

**Б. Н.**

# За высокі ўраджай бульбы

(*Канец. Гл. № 2*)

Даваць гной увесну адначасова з пасадкай бульбы ня раіцца таму, што ён можа спрыяць разьвядзеньню бульбяных хвароб і ня можа быць цалкам выкарыстаны бульбаю. Норма ўгнаеньня гноем адхіляецца ў залежнасьці ад глебы ад 18 да 23 тон і вышэй на *га*. Пераўгноенае поле, асабліва ў мокрыя гады, зьніжае ўраджайнасьць і крухмалістаць бульбы, а таксама садзейнічае разьвіцьцю некаторых бульбяных хвароб. На перагноеных вучастках моцна разьвіваецца бульбоўнік за кошт ураджаю бульбін, як гэта часта цяпер наглядаецца на прысядзібных землях калгасьнікаў.

Для хутчэйшага павышэньня ўраджайнасьці бульбы недахоп натуральнага гною можа быць з посьпехам заменены на мінэральных глебах торфам, як у яго натуральным выглядзе, так і ў выглядзе тарфянога гною і кампосту.

Пры тарфяным угнаеньні крухмалістасьць бульбы павялічваецца, што вельмі важна для саўгасаў, у якіх ёсьць заводы па перапрацоўцы бульбы. Ураджай бульбы яшчэ болей павялічваецца, калі ўгнойваць поле гноем і торфам. Так, пры ўнясеньні 18 тон саломістага гною ўраджай бульбы быў 178 *цнт*, пры 18 тонах тарфянога гною—220 *цнт*, пры 36 *т*. саломістага гною—208,5 *цнт* і пры 36 *т*. тарфянога—262,0 *цнт*.

У савецкіх гаспадарках зялёнае ўгнаеньне можа пакрыць недастачу гною і ўзьняць ураджайнасьць бульбы нават на далёкіх палёх.

Сярод усіх мерапрыемств, якія накіраваны на павышэньне ўраджайнасьці бульбы, асаблівае ўвагі заслугоўваюць мінэральныя ўгнаеньні і хэмізацыя глебы. Найбольшы эфэкт атрымоўваецца, калі адначасова даваць пад бульбу так званае „поўнае мінэральнае ўгнаеньне", г. зн. азоцістае, фасфарытнае і калійнае.

Нармальнымі сярэднімі дозамі мінэральных угнаеньняў на *га* пад бульбу лічацца наступныя: салетра ці сульфат-амоні—1,0—1,5 *цнт*, супэрфасфат—2,7—3,6 *цнт*, фасфарытная ці касьцяная мука—3,0—4,0 *цнт* і калійная соль—1,6—1,8 *цнт*.

Пры разьвядзеньні бульбы для заводаў трэба мець на ўвазе, што лішкі калійнага ўгнаеньня і азота зьніжаюць крухмалістасьць бульбы, а фасфарытнае наадварот—павялічвае. Мінэральнае ўгнаеньне вельмі карысна ўносіць пад бульбу ў камбі-

нацыі з гноем. Досьледы паказалі, што пры ўнясеньні 18 тон гною з чылійскаю салетраю ўраджайнасьць бульбы павялічылася ў 3 разы ў параўнаньні з няўгноенаю дзялянкаю.

У БССР адным з відаў калійнага ўгнаеньня зьяўляецца дрывяны попел. Досьледы паказалі, што 15 *цнт* сухога попелу на *га* бяз другіх угнаеньняў павялічылі ўраджайнасьць бульбы на 20 проц. Попел трэба ўносіць у ліку 7—10 *цнт* на *га*. У камбінацыі з гноем ці другімі ўгнаеньнямі ён дае значна больш эфэкт.

Надзвычайна важным момантам у справе павышэньня ўраджайнасьці бульбы зьяўляецца вапнаваньне асабліва цяжкіх кіслых глеб. Норма ўнясеньня вапны залежыць ад стану глебы і адхіляецца ад 10 да 15 *цнт* на *га*.

Па ўздыму ўраджайнасьці бульбы на саўгасных палёх вялікую ролю адыгрывае насенны матар'ял. Шматгадовыя досьледы паказалі, што найбольшы ўраджай атрымліваецца, калі насенны матар'ял ня буйны і ня дробны, а сярэдняй велічыні, г. зн. бульбіна важыла 40—50 *гр*, не дапускаючы пры гэтым высеву гнілой, папсаванай бульбы.

У справе ўздыму ўраджайнасьці бульбы першачарговае значэньне мае гатунковасьць або сортнасьць бульбы ня толькі ў сэнсе фізычнага ўраджаю, але і выхаду крухмалю з адзінкі плошчы. Матар'ялы дасьледчых станцыі гавораць, што аднэй толькі заменай насеньня чыстагатунковым пры іншых роўных умовах ураджайнасьць бульбы можна павялічыць на 20—50 проц. Апроч таго, сартавая бульба больш устойліва пры захаваньні і менней паражаецца рознымі хваробамі, а гэта ў сваю чаргу садзейнічае павышэньню ўраджайнасьці.

Найлепшымі сартамі бульбы ў БССР лічацца: з раньня-сталовых—Эпікур, Раньняя Ружа; з сярэдня-сьпелых, сталовых і сталова-заводзкіх—Юбэль, Дэодора і Парнасія; з позьніх заводзкіх—Вольтман, Сілезія, Сьвіцель; з позьніх кармавых—Кругер і Рэйтман.

Пасадка бульбы мае вялікі ўплыў на ўздым ураджайнасьці і прадукцыйнасьць працы. Дасьледчыя дадзеныя паказваюць, што пры пасадцы бульбы пад плуг на дно баразны ўраджай быў 133,5 *цнт*. Пры пасадцы пад маркер з абсыпкаю абсыпнікам—147 *цнт*, пры пасадны пад плуг у правы бок скібы на некалькі *см* над дном баразны—153 *цнт*. Пры наяўнасьці саджальных машын пасадку бульбы трэба вытвараць імі, дзякуючы чаму ня толькі павялічваецца ўраджайнасьць, а і ўзрастае прадукцыйнасьць працы ў некалькі разоў.

Глыбіня пасадкі можа падвысіць або зьнізіць ураджай бульбы. Чым цяжэй і вільготней глеба, тым пасадка павінна быць плытчэй. На лёгкіх і сухіх глебах бульбы трэба садзіць глыбей.

Гушчыня пасадкі бульбы зьяўляецца досыць важным момантам у павышэньні ўраджайнасьці. Некаторыя досьледы паказваюць, што ў залежнасьці ад гушчыні пасадкі ўраджайнасьць адхіляецца да 25 проц. у бок памяншэньня або павялічэньня. Лепшаю гушчынёй пасадкі будзе пры мэханічнай уборцы—паміж радамі 40—60 *см*, а ў раду 30 *см*.

Тэрмін пасадкі бульбы даволі моцна адбіваецца на ўраджайнасьць. Так раньняя пасадка позьніх гатункаў бульбы павялічвае ўраджайнасьць да 12 проц., крухмалістасьць да 6 проц.

Найбольшая прадукцыйнасьць працы, найвышэйшая ўраджайнасьць бульбы магчыма толькі пры прымяненьні агратэхнічных мерапрыемстваў у пасеве бульбы.

**Я. Ярмашэвіч.**

# Хэмічным сродкам барацьбы з сьмяцьцёвай расьліннасьцю—пачэснае месца

Да апошняга часу на барацьбу са сьмяцьцёвай расьліннасьцю зьвярталася нязначная ўвага. А былі выпадкі, што і недаацэньвалася тая шкода, якую прыносіць сьмяцьцёвая расьліннасьць. Ва ўмовах сацыялістычнай сельска-гаспадарчай вытворчасьці, калі ва ўсю шырыню пастаўлена пытаньне аб уздыме ўраджайнасьці, сьмяцьцёвая расьліннасьць, як фактар зьніжэньня ўраджайнасьці, павінна быць зьнішчана.

Апошні час вядуцца вялікія досьледы па хэмічных мерах барацьбы са сьмяцьцёвай расьліннасьцю ў БССР. Досьледы далі дадатныя вынікі. Так, ва Ўсесаюзным Навукова-дасьледчым Інстытуце праводзіліся досьледы з апырскваньнем пасеваў зерневых і прапашных культур мыш'якавіста-кіслым натрам, жалезным і медным купарвасам. Досьледы паказалі, што апырскваньнем 1—2% рашчынаю мыш'якавіста-кіслага натра ў пасевах ячменю былі поўнасьцю зьнішчаны аднагадовыя сьмяцьцёвыя расьліны. Ураджай быў узьняты на столькі, што поўнасьцю акуплены ўсе выдаткі, якія пайшлі на аплату работы апырскаваньня і на каштоўнасьць самой рашчыны. Апырскваньне 3 і 5 проц. рашчынаю меднага купарваса паказала ў пасевах ячменю, што сьмецьцёвая расьліннасьць зьнішчаецца на 75—85 проц. Апырскваньне 15—20 проц. жалезным купарвасам у пасевах морквы паказала зьнішчэньне сьмяцьцёвай расьліннасьці на 65—80 проц. Але тут апырскваць трэба акуратна, паміж радкоў, глядзець, каб рашчына не папала на кволае лісьце морквы, бо апошнія ня маюць таго васковага налёту, які ёсьць на сьцяблох зерневых расьлін і на якіх рашчыны амаль не затрымліваюцца.

З усяго гэтага відаць, што 1—2 проц. рашчына мыш'якавіста-кіслага натру дае далейшую эфэктыўнасьць на зьнішчэньне сьмецьцёвай расьліннасьці. Посьпехі-ж апырскваньня ў значнай ступені залежаць ад таго,—калі і пры якіх умовах праводзіцца апырскваньне. Вышэйпаказанымі рашчынамі трэба апырскваць у ясны сонечны дзень, калі хутчэй адбываецца параваньне вады і калі рашчыны мацней дзейнічаюць на расьлінныя клеткі.

Адным з дадатных бакоў ужываньньня хэмічных спосабаў барацьбы са сьмяцьцёвай расьліннасьцю гэта—магчымасьць машынізацыі і мэханізацыі самога працэсу апырскваньня. У сучасны момант пры тых вялізных выдатках, якія ідуць на арганізацыю полкі ў вялікіх саўгасах і калгасах, на барацьбу са сьмецьцёвымі расьлінамі хэмічным спосабам павінна быць зьвернута самая сур'ёзная ўвага.

Ужываючы хэмічныя спосабы, пры ўмелай і правільнай увязцы іх з агратэхнічнымі прыёмамі догляду за культурамі, мы выганім сьмецьцёвую расьліннасьць з нашых сацыялістычных палёў.

Саўгасы і калгасы павінны мабілізавацца на вырашэньне гэтага пытаньня. У рабоце кожнае сацыялістычнае гаспадаркі хэмічныя сродкі барацьбы са сьмецьцёвымі расьлінамі павінны заняць пачэснае месца з тым, каб, праверыўшы ў шырокай практыцы гэтыя дасьледваньні, мы здолелі забясьпечыць чыстату поля і атрыманьне высокіх ураджаяў сацыялістычных палёў.

**Вайцэховіч.**

# МНОЖЫЦЬ РАДЫ ЎЗОРНЫХ КАЛГАСАЎ



## Выкананьне дзяржаўных загатовак і засыпка насенфондаў—першая і рашаючая ўмова пасьпяховай падрыхтоўкі да веснавой сяўбы

## Адзін з перадавых

(*Шклоўскі раён*)

Калгас імя Дзяржынскага зьяўляецца перадавіком у выкананьні загатовак усіх відаў, у правядзеньні арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня. Гэты калгас у тэрмін выканаў з перавышэньнем плян па здачы хлеба і бульбы дзяржаве. З выкананьнем пляну тэхнічных культур калгас таксама справіўся.

Заданьне па трасьце 41 *цнт* выканана на 45 *цнт*, па ільнанасеньню заданьне ў 14 *цнт* выканана на 19 *цнт*. Калгасам выкананы ўсе грашовыя плацяжы як абавязковыя, так і добраахвотныя. Зараз на кантакарэнтным рахунку калгасу ляжыць 5.000 р. вольных сродкаў.

Выканаўшы загатоўкі перад дзяржавай калгас поўнасьцю засыпаў насенныя фонды і страхавыя фонды і заканчвае ўжо разьмеркаваньне прыбыткаў. На працадзень у калгасе прыходзіцца паўтара кілёграмы жыта, 1.800 грам аўсу, 1,5 *кгр* ячменю, 1/2 кілё пшаніцы, 11 кілё бульбы, 2 *кгр* капусты і грашыма 2 руб.

Гэтых посьпехаў калгас дамогся пад непасрэдным штодзенным апэрацыйным кіраўніцтвам партыйнай ячэйкі Высоцкага сельсавету ў рашучай і бязьлітаснай барацьбе з клясава-варожымі элемэнтамі.

**З. Р—ч.**

## Варашылаўцы перамаглі

(*Лёзьненскі раён*)

У бязьлітаснай барацьбе з кулакамі і яго агентурай—правымі і „левымі“ апартуністамі калгас „Варашылава“ Унаўскага нацыянальнага сельсавету сустрэў другую пяцігодку поўным выкананьнем і перавыкананьнем плянаў па ўсіх відах загатовак.

Плян па збожжу выканан на 120 проц., бульбы—131 проц., ільнанасеньня—140 проц., сена 150 *цнт*—100 проц. пляну, ільнавалакна 36 *цнт*.

На агульным сходзе калгасьнікі высунулі сустрэчны плян—5 *цнт* ільнавалакна, вызначанага да разьмеркаваньня па працаднёх паміж калгасьнікаў.

Адстаючыя калгасы сельсавету і ўсяго раёну, бярэце баявы прыклад з калгасу „Варашылава“.

**Л. К.**

**Бібліяграфія**

## Патрэбная кніжка

**В. Крэйдзіч.** Даведнік па завочнай падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы сельска-гаспадарчых кадраў. ДВБ, сельгассэктар, Менск, 1932 г. Тыраж 12 тыс. экз., стар. 88, цана 35 кап.

Даведнік мае дзьве часткі: 1) арганізацыя і мэтодыка завочнага навучаньня, 2) сыстэма сельскае гаспадаркі завочнага навучаньня і ўмовы прыёму на завочнае сел.-гасп. навучаньне.

У першай частцы зьмешчаны артыкулы: „Барацьба за кадры“, „Як праводзіцца завочная падрыхтоўка і перападрыхтоўка с/г кадраў“, „Пытаньні арганізацыі вучобы завочніка“, „Як прапрацоўваць заданьне завочніку“, „Арганізацыя і праца кансультацыйных пунктаў“, „Арганізацыя і праца вучэбнай брыгады завочнікаў“, „Вытворчая практыка завочнікаў“.

У другой частцы—„Сьпіс с/г навучальных устаноў, якія праводзяць завочную падрыхтоўку кадраў“, „Сьпіс с/г навукова-дасьледчых інстытутаў і станцый БССР“, „Зьвесткі аб умовах прыёму ў завочныя сэктары, тэрмінах навучаньня, плаце за навучаньне“ і г. д.

Акрамя таго ў дадатках дадзены: кіруючыя матар'ялы і палажэньні аб завочнай падрыхтоўцы с/г кадраў (пастановы СНКБ, НКЗ СССР, НКЗБ, ЦК ЛКСМБ і інш.), формы заяў, анкет і г. д. Тут-жа зьмешчаны і сьпіс завочных навучальных установаў СССР па розным галінам народнай гаспадаркі, памятка завочніка і ліст да завочнікаў с/г сыстэмы.

Завочная падрыхтоўка с/г кадраў у БССР—справа новая, вялікага значэньня, ня гледзячы на дырэктывы партыі і ўраду ў гэтым напрамку, яшчэ не набыла. Шырокія масы працоўных аб завочным навучаньні ведаюць мала і таму брашура т. Крэйдзіча (першая ў БССР па гэтаму пытаньню) зьяўляецца надта патрэбнай і карыснай. Трэба пажадаць самага хуткага і шырокага яе распаўсюджваньня. Яна павінна быць у кожным саўгасе, МТС, калгасе, кожным РКС, райземчастцы, у кожнага завочніка і г. д. Напісана брашура зразумелай мовай, разьлічана на саўгасна-калгасны актыў.

Дырэктар Рэспубл. Інстытута завочн. навучаньня пры НКЗБ **А. Шэйпак.**

**Адказны рэдактар—РЭДКАЛЕГІЯ.**


Друк. імя Сталіна. Зак. № 594 У ліку 2.100 экз. Мен. Гарліт. № 1350.